

# САЛІДАРНАСЦЬ

№ 42 (357)

27 лістапада - 3 снежня 2000 года

Распаўсюджваецца бясплатна

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА НЕЗАЛЕЖНАГА ПРАФСАЮЗА ГАРНЯКОЎ, ХІМІКАЎ, НАФТАПЕРАПРАЦОЎШЧЫКАЎ, ЭНЕРГЕТЫКАЎ, ТРАНСПАРТНІКАЎ, БУДАЎНІКОЎ І ІНШЫХ РАБОТНІКАЎ

Акцыі




# Незалежнай Беларусі — "так"!

**26 лістапада на гарадскім стадыёне Слуцка адбыўся святочны мітынг, прысвечаны 80-й гадавіне Слуцкага антыбальшавіцкага паўстання. У ім прынялі ўдзел каля трохсот жыхароў Слуцка і гасцей з іншых гарадоў Беларусі. На мітынгу прысутнічалі лідэры аб'яднанай дэмакратычнай апазіцыі, прафсаюзныя і грамадскія дзеячы краіны.**

Лёгкі мароз надаў актыўнасці ўдзельнікам свята – гучнае скандзіраванне лозунга "Жыве Беларусь!" прыцягвала ўвагу выпадковых прахожых, і тыя ўліваліся ў іх шэрагі. Кароткі мітынг, прысвечаны ўшанаванню памяці змагароў за незалежную Беларусь, адкрылі арганізатары. Распавёўшы аб гісторыі Слуцкага паўстання, пра тое, як доўга замоўчвалася праўда аб ім, слова далі гасцям.

Прэс-сакратар Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ **Валерый Буйвал** зачытаў вітальнае слова Зянона Пазьняка да ўдзельнікаў мітынга. У ім спадар Пазьняк падкрэсліў, што прыклад паўстанцаў, іх "гатоўнасць змагацца за волю, за нацыянальны гонар і народную долю ёсць надзвычай важны ўзор для ўсіх нас цяпер, калі на Беларусі панує прарасейская дыктатура, калі працягваецца ўнутраная акупацыя краіны. Незалежнасць Бацькаўшчыны пад пагрозай".

**Аляксандр Дабравольскі**, адзін з лідэраў Аб'яднанай грамадзянскай партыі, выказаў упэўненасць, што патрыёты Бацькаўшчыны зробяць усё магчымае, каб Беларусь была свабоднай і незалежнай краінай.

Тое, што гэта мерапрыемства было сапраўды святам, а не звыклым мітынгам, падкрэсліў удзел у ім... афіцэра часоў Слуцкага паўстання. Лідэр Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" **Вінцук Вячорка** даў слова штабс-капітану Антону Сокалу-Паплюйскаму, ролю якога выканаў адзін з "фронтаўцаў" *(гл. здымак на 3-й стар. справа ўнізе)*. Той зачытаў "Ухвалу Беларускага з'езда Случчыны" – гістарычны дакумент таго

*(Заканчэннэ на 3-й стар.)*



*Сярод удзельнікаў мітынгу была і дэлегацыя Беларускага Незалежнага прафсаюза (злева направа): П. Майсівіч, В. Бабаед, М. Дзялендзік, М. Калода, А. Емяльянчыкаў.*

Сілавыя структуры

## АРМІЯ БЕЗ... ФОРМЫ

Паўсядзённай формай адзення сёння ўкамплектаваны 24 працэнты афіцэраў і прапаршчыкаў, 60 працэнтаў кантрактнікаў, 13 працэнтаў ваеннаслужачых-жанчын і 67 працэнтаў салдат тэрміновай службы. Парадную форму маюць у асноўным выпускнікі Ваеннай акадэміі Беларусі. Больш-менш добрас становішча толькі з забяспечанасцю палявой формай. Такія звесткі, як паведамляе газета Міністэрства абароны рэспублікі «Во славу Родины», былі прыведзены на чарговым пасяджэнні калегіі ваеннага ведамства, якое адбылося ў канцы мінулага тыдня. Зазначалася, што ў 2000 годзе на рэчавае забеспячэнне беларускай арміі былі выдзелены ўсяго шэсць працэнтаў ад патрэбы. Таму, каб не сарваць чарговы прызыў, міністр абароны генерал-палкоўнік Аляксандр Чумакоў быў вымушаны звярнуцца па дапамогу да кіраўніка ўрада Уладзіміра Ярмошына. Толькі пасля гэтага ваеннае ведамства атрымала неабходныя 1,4 мільярда рублёў на закупку абмундзіравання для маладога папаўнення.

Акрамя таго, вельмі малыя апаратыўныя запасы асноўных гаруча-змазачных матэрыялаў, катастрафічна не хапае антыбіётыкаў і шэрагу іншых лекаў. З-за даўгоў часцям адмаўляюць у пастаўцы сваёй прадукцыі Бабруйскі і Віцебскі мясакамбінаты, Барысаўскі хлебазаводі некаторыя іншыя прадпрыемствы.

Пры гэтым, зазначае газета, службы тылу не сядзяць склаўшы рукі — сёлета яны зарабілі больш за 370 мільёнаў рублёў пазабюджэтных сродкаў. Але яны кардынальна не ўплываюць на дэфіцыт фінансавання.

Паводле БелаПАН.

## Одним абзацем

- **Средняя заработная плата за III квартал этого года в Беларуси выросла на 15,8 процента. А цены - на 18,7 процента. Это значит, что реальная заработная плата уменьшилась на 8,2 процента.**
- В ноябре увеличен размер командировочных. При служебных командировках в пределах Беларуси суточные будут выплачиваться в размере 1 500 (ранее - 1 000 рублей). При однодневных командировках суточные установлены в размере 750 рублей. Компенсация расходов по найму жилого помещения с 1 ноября составит 450 рублей.
- **Рост потребительских цен в республике за октябрь текущего года составил 5,2 процента. А всего за январь-октябрь 2000 года - 87,4 процента. С таким "ростом" Беларусь среди стран СНГ лидирует.**
- В Беларуси проезд в пригородных электропоездах подорожал в два раза. Проезд из зоны в зону оценивается в 40 рублей.
- **В среднем на 25 процентов упали цены на билеты в поезда межгосударственного сообщения, формируемые Белорусской железной дорогой. Причиной удешевления дальних поездок служит падение курса швейцарского франка, к которому привязана стоимость железнодорожных билетов.**
- Налоговый комитет Республики Беларусь определил точные суммы крупного и особо крупного ущерба, причиняемого государству. Отныне крупным признается ущерб в размере от 250 до 1000 минимальных заработных плат, особо крупным - от 1000 минимальных заработных плат и выше.
- **23 ноября, когда и было запланировано, состоялась общенациональная забастовка индивидуальных предпринимателей. Вещевые рынки не работали по всей стране. Если власти и на этот раз не выполнят требовании бастующих, то те намерены в январе следующего года провести всеобщую забастовку с прекращением всех платежей в бюджет, а также организовать акции протеста во всех городах Беларуси.**
- С 1 декабря для телефонных абонентов Беларуси будет открыт автоматический набор всех стран мира.
- **В ближайшее время в некоторых школах г. Минска экспериментально появится новая учебная дисциплина: основы потребительских знаний. Учащиеся 8-9 классов будут обучать грамотно отстаивать свои права при покупке товаров, в сфере услуг. Автор затеи - Белорусское общество защиты потребителей.**
- В Беларуси 120 тысяч людей страдают диабетом.
- **В Витебской области зафиксированы два случая заболевания бешенством енотов. Имеются случаи укусов ими собаки и человека.**

Статыстыка

## ЯК ПАКАЗАЛА АПЫТАННЕ...

**«Ці задаволены Вы тым, як А. Лукашэнка кіраваў краінай на працягу шасці гадоў?»** — з такім пытаннем звярнуліся да жыхароў Беларусі супрацоўнікі Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў падчас агульнанацыянальнага сацыялагічнага апытання ў кастрычніку 2000 года.

Былі апытаны каля 1.500 рэспандэнтаў, якія прадстаўлялі ўсе сацыяльна-дэмаграфічныя слаі насельніцтва краіны ад 16 гадоў і старэй. Як стала вядома БелаПАН, 22 працэнты з іх заявілі, што «хутчэй задаволены» працай Лукашэнкі на пасадзе кіраўніка дзяржавы. 41 працэнт апытаных «часткова задаволены, часткова не задаволены». І 36 працэнтаў «хутчэй не задаволены» тым, як Лукашэнка кіраваў краінай на працягу шасці гадоў. Астатнім апытаным (1 працэнт) было цяжка адказаць на прапанаванае пытанне.

У пагаршэнні эканамічнай сітуацыі ў краіне 51 працэнт рэспандэнтаў абвінавачваюць урад і 38 працэнтаў — прэзідэнта. 35 працэнтаў апытаных вінаватымі сваіх бед лічаць мясцовыя ўлады, а 15 працэнтаў — мафію.

Леанід ІГНАЦЬЕЎ.

Семінары

## Навучанне ў Гродна

**18 і 19 лістапада ў Гродна Цэнтрам прафсаюзнага навучання пры Незалежным прафсаюзе РУП «ГВА Азот» быў праведзены семінар на тэму: «Новае працоўнае заканадаўства». У семінары прынялі ўдзел сябры Незалежнага прафсаюза РУП «ГВА Азот» і СПБ ТАА «Альформа».**

Навучанне было пабудавана такім чынам. У першы дзень удзельнікі задавалі пытанні і атрымлівалі кваліфікаваныя адказы ад юрыста БНП, сябра Амерыканскай асацыяцыі юрыстаў Тамары Дзмітрыеўны Шалмаковай. Пытанняў было сапраўды шмат. Парады, адказы юрыста-практыка былі тут дарэчы.

Другі дзень вучобы быў прысвечаны такім пытанням і палажэнням працоўнага заканадаўства, як міжнародныя дакументы (Канвенцыі МАП), ратыфікаваныя Беларуссю, калектыўныя дамовы і перамовы, сацыяльнае партнёрства, калектыўныя працоўныя спрэчкі. Вялі навучанне дырэктар Рэспубліканскага цэнтра прафсаюзнага навучання пры БНП Павел Майсісвіч і дырэктар аналагічнага цэнтра ў Гродна Сяргей Антусевіч.

С. АНТУСЕВІЧ.

Міжнародныя адносіны

## АКАЗАЛАСЯ ДЭЗІНФАРМАЦЫЯЙ

Кіраўнік Кансультатыўна-назіральнай групы (КНГ) АБСЕ ў Беларусі Ханс-Георг Вік назваў дэзінфармацыяй паведамленні аб тым, што НАТО збіраецца аказваць дапамогу беларускай апазіцыі. Пра гэта ён заявіў на міжнародным форуме «Беларусь на шляху ў новую Еўропу: палітычная, эканамічная ізаляцыя або адкрытасць», які прайшоў у Мінску 24-26 лістапада.

Па словах пасла Віка, гэтая дэзінфармацыя ўжо сама па сабе гаворыць пра тое, чаго можна чакаць у будучым. Такія сфабрыкаваныя паведамленні, лічыць Ханс-Георг Вік, неадкладна вядуць да прапаноў чыніць перашкоды ў аказанні міжнароднай дапамогі палітычным партыям.

Васіль ЯКАЎЛЕЎСКІ, БелаПАН.

Працоўная эміграцыя

# Як мінчукі ў Лівіі доўгі доларараблялі...

**Нядаўна з Народнай сацыялістычнай Лівійскай арабскай Джамахірыі вярнуліся на радзіму каля сарака маладых будаўнікоў – грамадзянаў Рэспублікі Беларусь. Яны на пачатку лета з'ехалі на заробкі ў горад Тобрук, спакушаныя на тое прадстаўнікамі цэнтра занятасці моладзі Мінскага абкаму БПСМ. Большасць завербаваных атрымалі за чатыры месяцы нялёгкай працы ў некалькі разоў меней, чым ім абяцалі. А некаторыя зусім вярнуліся з Афрыкі без грошай.**

Без грошай, не дачакаўшы канца вярбоўкі, вярнуліся мінчукі Віктар Шабан, Сяргей Захожы і Васіль Бельчык. Астатнія маладыя будаўнікі з Мінскай, Магілёўскай і Гародзенскай абласцей краіны ўсё-такі адпрацавалі свае чатыры месяцы.

Як распавёў мне Віктар Шабан, рэклама наконт вярбоўкі яшчэ ўвесну прагучала на Беларускім радыё. Гаворка ішла пра набор будаўнікоў у нямецкую фірму "Бэкер Мэле Інтэрнацыянал". Паводле слоў спадара Шабана, вярбоўшчыкі спачатку запісалі ў кантракт з ім суму 400 доляраў. Затым кантрактныя дакументы былі адабраны: маўляў, немцы бок іх хоча перагледзець, штомесячныя сумы будучых заробкаў немцы прастаўляюць у бок павелічэння ажно да васьмісот доляраў. Прадугледжвалася і медычная страхоўка. Аднак беларусы трапілі не на будоўлі Еўропы, а ў лівійскі горад Тобрук, дзе меліся будаваць медыцынскі комплекс. Вось тут і пачаліся сюрпрызы. Па-першае, у кантрактах, якія былі вернуты людзям, праставілі сумы не ў бок павелічэння, але ў адваротны бок: 260 доляраў. Падругое, пункт пра медыцынскую страхоўку з дакументаў знік. Па-трэцяе, пашпарты людзям назад не аддаваліся. Па-чацвёртае, неўзабаве надарылася эпідэмія гепатыту сярод брыгады паўночных карэйцаў, якія былі хуценька эвакуяваны дамоў. Пятае: на ўвесь комплекс меўся адзін пад'ёмны кран, і людзям даводзілася пераносіць будматэрыялы на высокія паверхі ўручную. І, нарэшце, беларусы дазналіся, колькі насамрэч каштуе гэткая праца ў афрыканскіх умовах: побач працавала брыгада югаславаў, якім фірма плаціла па паўтары тысячы долараў штомесяц.

Гэта ўсё і змусіла Віктара Шабана, Сяргея Захожага ды Васіля Бельчыка, не адбыўшы да канца кантрактны тэрмін, вярнуцца ў Беларусь. Астатнія 36 чалавек, якім затым кантрактную суму зменшылі яшчэ на 10 доляраў, выправа шылі ў Тобруку застацца да канца. Для іх і такія грошы былі нейкім заробкам. "Уцекачам" жа пагражалі розныімі непрыемнасцямі вярбоўшчыкі. Аднак Віктар, Сяргей і Васіль здолелі запатрабаваць у тых грошы на маршрут "Тобрук - Каір - Масква - Мінск"...

Як жа ацэньвае гэты выпадак сакратар абкаму БПСМ Віталь Купрык, які кантралюе дзейнасць цэнтра занятасці моладзі? Ён паведаміў: ва ўсім вінаватыя спадары Шабан, Захожы і Бельчык. Яны, маўляў, шукалі прычыны, каб не працаваць на сваю карысць і на карысць сяброўскай Лівійскай Джамахірыі. Можна, маўляў, было ім, як і астатнім, абысціся без медстрахоўкі і задаволіцца нават такім заробкам, які яны наўрад ці здолеюць зарабіць на беларускіх рыштаваннях.

А вось меркаванне галоўнага спецыяліста Камітэта па працы Мінаблвыканкама Валянціна Баранава: "Адназначна, без ліцэнзіі БПСМ не мае права займацца вярбоўкаю людзей. Тым не меней, Мінскі абкам БПСМ настойліва хадайнічае перад Камітэтам па працы па выдачу ім гэтай ліцэнзіі. Але лукамольцам усё сыходзіць з рук, бо іхні "дах" - адміністрацыя Лукашэнкі".

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА, г. Мінск.**

# Звычайны падман

Некалькі беларускіх рабочых, якія завербаваліся на будаўніцтва Вілюйскай ГЭС-3 у Якуцыю і трапілі там у складаную сітуацыю, 19 лістапада вярнуліся на радзіму.

4 беларускія будаўнікі даведаліся аб магчымасці паехаць на заробкі ў Якуцыю з газеты «Труд и рынок», афіцыйнага выдання Камітэта па занятасці насельніцтва пры Міністэрстве працы Рэспублікі Беларусь. Звязаўшыся з прадстаўнікамі ўпраўлення будаўніцтва Вілюйскай ГЭС-3 у Мінску, яны ўдакладнілі ўмовы працы і аплаты. 22 кастрычніка праз Маскву вылецелі ў пасёлак Светлы Мірнінскага раёна Рэспублікі Саха (Якуцыя).

Як расказаў адзін з будаўнікоў — Сяргей Калаур з Пінска, дагавор ніхто з прыбыўшых на будоўлю не заключаў, аднак яны ўжо былі залічаны на працу. З-за таго, што рэальныя ўмовы працы і аплаты аказаліся намнога горшымі за абяцаныя, уся вахта — 45 чалавек, у асноўным грамадзян Расіі — не выйшла на працу. На наступны дзень — 26 кастрычніка — рабочыя былі звольнены за прагул. Ім было адмоўлена ў харчаванні. Беларускія рабочыя, застаўшыся без сродкаў да існавання, вымушаны былі абвясціць галадоўку, якую працягвалі каля двух тыдняў. Некаторых будаўнікоў у выніку давялося нават шпіталізаваць.

8 лістапада сваякі рабочых правялі ў Мінску пікетаванне пасольства Расійскай Федэрацыі. Да вырашэння праблемы падключыліся Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь і пасольства Беларусі ў Расіі. Вышэйшыя чыноўнікі Рэспублікі Саха таксама былі ў курсе, супрацоўнікі адміністрацыі прэзідэнта Якуціі нават прыязджалі на месца падзей.

Чартэрным рэйсам рабочыя былі дастаўлены ў Чэбаксары. Адтуль на цягніку беларускія будаўнікі дабраліся да Масквы. Іх было ўжо 5 — далучыўся жыхар Слуцка, які раней завербаваўся на будоўлю. У Маскве некаторым будаўнікам давялося прадаваць асабістыя рэчы, каб здабыць грошай на білеты і харчаванне. Але ўсё закончылася добра, і пяцёра грамадзян Беларусі 19 лістапада прыбылі дадому.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

Крымінал

# Міліцэйская «аблава» на барысаўскую медыцыну

Група супрацоўнікаў Барысаўскага ГАУС з аддзела па барацьбе з незаконным абаротам наркотыкаў затрымала на сваім працоўным месцы грамадзянку К., старшую медсястру 4-й гарадской паліклінікі.

Падчас вобыску яе кватэры міліцыянты знайшлі 13 ампулаў марфіну і 50 пустых ампулаў марфіну ды пірамідолу - наркотыкаў групы "А". Гэта найбольш моцныя наркатычныя рэчывы, якія выбраляюцца на адмысловай вытворчасці.

Спадарыня К., паводле яе характару працы, мела прамы доступ да марфіну і пірамідолу. Было засведчана, што К. павінна была захоўваць наркотыкі ў сваім кабінеце, браць лекі адтуль дзеля аблягчэння анкахворых ды іншых хворых прама на іхніх кватэрах.

Уся гэта працэдура звычайна знаходзіцца пад адказнасцю кіраўніцтва паліклінікі. Аж да таго моманту, калі медсястра ў прысутнасці старшыні адмысловай камісіі ў спецыяльнай ступцы знішчае ампулы з-пад марфіну і пірамідолу.

Але, калі следчая група правяла праверку ў згаданай медустанове, то даведалася, што названы старшыня нават не ведаў колеру гэтай ступкі.

Зараз медсястра К. арыштавана і змешчана ў жодзінскі СІЗА. А міліцыянты шукаюць тых асобаў, каму яна прадавала наркотыкі.

Як мне паведаміў начальнік ГАУС Вячаслаў Яўстаф'еў, тое, што зараз робіць яго падначаленыя з аддзела па барацьбе з незаконным абаротам наркотыкаў, - дзейсны адказ міліцыі на сігналы грамадзян пра злоўжыванні ў барысаўскай медыцыне. У тым ліку - на пратэстовыя акцыі мясцовых дэмакратаў з нагоды гэткіх злоўжыванняў.

Такім чынам, «аблава» на медгаліну Барысава пачалася. Вядома, што 9 лістапада прадстаўнік філіі БСДП (НГ), які адказвае за сувязі з медыцынай горада, меў сустрэчу з В. Яўстаф'евым. Не выключана, што палітыкі давялі начальніку ГАУС і невядомыя яму факты злоўжыванняў, дапушчаных у 4-й ды іншых паліклініках і клініках Барысава.

Цікава, што ў гэтыя ж дні актывістка БСДП (НГ) Ларыса Грэбнева прад'явіла грамадзянскі іск памянёнай медустанове. Прычына: ін'екцыя невядомай вадкасці ў арганізм яе малалетняй дачкі, што прывяло, як даказвае сп. Грэбнева, да дзвюх сур'ёзных хранічных хваробаў дзіцяці.

Зразумела, калі ніхто не перашкодзіць Вячаславу Яўстаф'еву "патрэсці" як след гарадскую сістэму аховы здароўя, то за кратамі ў тым жа СІЗА апынуцца новыя падазроныя ў злачынствах супраць здароўя і жыцця барысаўскіх пацыентаў.

**Алесь СЕРГІЕВІЧ, г. Барысаў.**

Радыёперахваты

# ЯКІЯ ПРАФСАЮЗЫ – ТАКІ І "ЧАС"

**- Мы імкнемся стварыць агульнанацыянальную газету з прафсаюзным ухілам, - паведаміў новы рэдактар газеты "Беларускі час" Аляксандр Старыкевіч. З яго прыходам на рэдактарскую пасаду раней аморфнае выданне набыло выразныя абрысы.**

Напады на Федэрацыю прафсаюзаў Беларускую прымусілі гэту арганізацыю больш увагі надаваць пытанням, якія раней лічыла другаснымі: супрацоўніцтва з іншымі недзяржаўнымі арганізацыямі, міжнародная салідарнасць і сяброўства ў інтэрнацыянальных прафсаюзных структурах, а таксама стасункі з прэсай. У прамове кіраўніка ФПБ Уладзіміра Ганчарыка на трэцім з'ездзе арганізацыі прагучала, што ўвага будзе скіравана зараз найбольш на кантакты з недзяржаўнымі масмедыя. Такая выснова выглядае лагічнай, улічваючы колькігадовую забарону на з'яўленне прафсаюзнай тэматыкі на дзяржаўным тэлеэкране і на старонках дзяржаўных газет. Змянілася стаўленне і да ўласнага "голасу", якім з'яўляецца газета "Беларускі час": рэдакцыю ўзначаліў Аляксандр Старыкевіч, якога беларускаму чытачу прадстаўляць няма патрэбы. Ён сам паведаміў, што гэта абранне і для яго таксама было нечаканасцю: тэлефанаванне, размова з кіраўніком ФПБ – і пытанне вырашана.

***- Ці былі на самым пачатку сюрпрызы, з улікам спецыфічнасці выдання? – пацікавіліся мы.***

**А.С.:** Я ведаў, куды іду, і вялікіх сюрпрызаў для мяне не было.

***- Першыя нумары, падпісаныя новым рэдактарам, паказалі, што выданне набывае новае аблічча. Якія тэмы будуць дамінаваць надалей у "Беларускім часе"?***

**А.С.:** Паколькі аўдыторыя ў яго небагатая, гэта павінна быць газета, якая дапамагае выжыць у розных сэнсах гэтага слова: нейкія парады па хатняй гаспадарцы, па гарадзе, па медыцыне – па чым заўгодна, але тое, што сёння сапраўды цікавіць людзей. Я думаю, што газета будзе досыць крытычна ставіцца як да ўлады, так і да апазіцыі, бо і да тых, і да тых ёсць шмат прэтэнзій.

Крытычнае стаўленне, па словах новага рэдактара, будзе і да падзей, і асоб самога прафсаюзнага жыцця. І тут, лічыць суразмоўнік, не можа быць месца падпарадкаванню – "гаспадару", уласніку выдання.

Што да пытанняў, якія ёсць да чыннікаў грамадскага жыцця і да штампаў, то ФПБ часта клічуць дзяржаўным прафсаюзам. Рэдактар газеты гэтага "дзяржаўнага аб'яднання" з такім азначэннем не пагаджаецца.

**А.С.:** Не. Таму што дзяржава цяпер імкнецца стварыць сапраўды кішэнныя прафсаюзы. А што тычыцца ФПБ, то апошнім часам рэпрэсіўныя захады ўлады скіраваны ў значнай ступені менавіта на гэту арганізацыю. Не сакрэт, што больш за месяц арыштаваныя банкаўскія рахункі ФПБ. Я не думаю, што такое магчыма ў дачыненні арганізацыі, падкантрольнай рэжыму.

***- Нельга сказаць, што выданне ФПБ карыстаецца вялікім попытам чытачоў. Яго наклад крыху болей за 40 тысяч асобнікаў. А газета выдаецца штотыдзень для больш 4 мільёнаў сяброў прафсаюза. Таму ці можна ў нейкім сэнсе весці гаворку пра непапулярнасць выдання альбо пра абыякавасць сяброў прафсаюзаў да жыцця арганізацыі?***

**А.С.:** Наклад быў сфармаваны да майго прыходу сюды, і я не магу адназначна адказаць на гэтае пытанне. Пабачым, што прынясе новая падпісная кампанія. Але змены, пэўна, будуць.

Працягам змен будзе і павелічэнне аб'ёму выдання: "Беларускі час" выйдзе на 12 старонках; пашырыцца кола тэм; у рэдакцыю прыйшлі новыя аўтары. Дарэчы, Радыё Рацыя мае намер супрацоўнічаць з "Беларускім часам", таму на нашых хвалях з'явіцца магчымасць рэгулярна знаёміцца з адметнымі публікацыямі прафсаюзнага выдання.

**Алесь ХМЯЛЬНІЦКІ.**
**(Радыё Рацыя. 8 лістапада 2000 г.)**

# Незалежнай Беларусі — "так"!

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

часу. Сам жа сп. Вячорка спыніўся на гістарычнай значнасці Паўстання. "Нахабнай хлуснёй з'яўляюцца сцверджанні, што незалежнасць зваліласяна галаву беларусам выпадкова. Не! Яе выпакутавалі нашы з вамі продкі", - падкрэсліў прамоўца. Ён даў ацэнку дзейнасці аб'яднанай дэмакратычнай апазіцыі і БНФ за апошні год: "Мы паставілі за мэту перахапіць у Лукашэнкі ініцыятыву, не даць яму правесці выбары ў так званую "палатку" і не дапусціць іх міжнароднага прызнання. Байкот выбараў адбыўся, міжнароднага прызнання няма. Мы перамаглі!" Вінцук Вячорка заклікаў прысутных рыхтавацца да маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбараў, каб адзіны кандыдат ад апазіцыі перамог на іх.

Адзін з арганізатараў мітынгу, актыўны грамадскі дзеяч Случчыны Аляксандр Катляроў задаў прысутным пытанне, адказ на якое ведаў кожны: "У сталіцы якой краіны свету паліцыянты б'юць дубінкамі людзей за тое, што яны размаўляюць на сваёй роднай мове?" Ён таксама заклікаў землякоў прыняць актыўны ўдзел у рабоце груп назіральнікаў на будучых прэзідэнцкіх выбарах, каб абраць дастойнага прэзідэнта, "за якога не будзе сорамна перад астатнім светам".

Скончыўся святочны мітынг чытаннем вершаў, прысвечаных Слуцкаму збройнаму чыну, спяваннем патрыятычных песень. Госці з іншых гарадоў паехалі да памятных крыжоў, пастаўленых на месцах змагання паўстанцаў з бальшавікамі, дзе ўсклалі вянкі і кветкі.

**Д. АБРАМЫЧАЎ.**





*А. Катляроў.*


*В. Вячорка.*


*А. Дабравольскі.*



*Бяспека*

## СПЫНЕНЫ РЭАКТАР

27 лістапада ў 6 гадзін раніцы трэці энергаблок Чарнобыльскай АЭС быў спынены дзеяннем аварыйнай аховы. Пра гэта са спасылкай на службу інфармацыі ЧАЭС паведамляе агенцтва УНІАН. Прычына незапланаванага адключэння трэцяга энергаблоку Чарнобыльскай АЭС — кароткае замыканне на ВЛ-750 «Вінніца» (паветраная лінія напружаннем 750 кВт) з-за яе абледзянення.

Аднаўленне працы трэцяга блоку Чарнобыльскай АЭС магчыма толькі па спецыяльнаму рашэнню дэпартамента ядзернага рэгулявання Міністэрства экалогіі і прыродных рэсурсаў Украіны пасля высвятлення ўсіх абставін і прычын спынення рэактара. Згодна з рашэннем названага дэпартамента, трэці блок ЧАЭС можа без спынення працаваць да закрыцця ЧАЭС — да 15 снежня, аднаўленне працы блоку пасля яго спынення, якое прывядзе да расхалоджвання рэактара, дэпартаментам ядзернага рэгулявання забаронена.

**УНІАН — БелаПАН.**

*У зарубежных коллег*

# ПРОФСОЮЗНЫЕ АКЦИИ В ОКТЯБРЕ

## ЦЕЛЛЮЛОЗНАЯ И БУМАЖНАЯ ПРОМЫШЛЕННОСТЬ МИРА: ОБЪЕДИНЕНИЕ ПРОФСОЮЗОВ В СЕТЬ

На состоявшейся в октябре в Канаде двухдневной всемирной конференции ICEM по проблемам целлюлозной и бумажной промышленности, руководители профсоюзов этих отраслей поручились создать глобальные сети рабочих, занятых в одних и тех же корпорациях, для обмена информацией и, в случае необходимости, проведения акций солидарности. Они также призвали руководство крупных транснациональных компаний в этих отраслях принять глобальные стандарты на своих предприятиях по всему миру путем заключения соглашений с ICEM.

ICEM готова заключать глобальные соглашения с транснациональными компаниями, желающими признать свои обязательства перед работниками, и готова проводить глобальные кампании против тех работодателей, которые решат нарушить права своих работников.

## АЗИАТСКО-ТИХООКЕАНСКИЙ РЕГИОН: ПРОФСОЮЗЫ – ПРОТИВ БЕДНОСТИ

На состоявшейся в октябре с.г. в Сингапуре Региональной Конференции ICEM (Международной Федерации профсоюзов химиков, горняков, энергетиков и разнорабочих) был отмечен заметный прогресс деятельности организации по четырем основным направлениям: созданию сети профсоюзов как в отдельных транснациональных компаниях, так и по всем отраслям; укреплению уважения к правам профсоюзов и правам человека по всему региону; профсоюзному обучению; укреплению дружбы и солидарности между профсоюзными работниками региона.

Профсоюзные лидеры отметили, что рабочие Индии и Пакистана не воюют друг с другом. Эти страны должны мирно решать свои разногласия, отказаться от ядерного оружия и направить средства, которые расходуются на оборону, на уменьшение уровня бедности.

## ВЕНЕСУЭЛА: НЕФТЯНИКИ ДОБИЛИСЬ СОГЛАШЕНИЯ

Венесуэльские нефтяники провели в октябре четырехдневную забастовку и добились принятия нового коллективного соглашения, по которому переговоры велись почти год.

Соглашение между профсоюзом нефтяников Fedepetrol и государственным нефтяным гигантом PDVSA уже давно было готово к подписанию, но компания попыталась выйти из него, что и осложнило переговоры.

Около 95 процентов рабочих PDVSA последовали призыву профсоюза к забастовке. Эта акция, если бы она не закончилась, могла привести к нехватке топлива в Венесуэле и вскоре могла нанести международный урон. Венесуэла - крупный поставщик неочищенной нефти в США.

По новому соглашению, основная оплата нефтяников возрастет на 5000 боливаров (около 7,25 долларов) в день. В настоящее время минимальная дневная ставка - около 14 долларов. Начиная с февраля будущего года планируется повышение зарплаты еще на 1000 боливаров в день. Вдобавок, компания выплатит дополнительно 2,5 миллионов боливаров в качестве премий, а минимальная пенсия возрастет до 250 тысяч боливаров в месяц.

По словам президента профсоюза Fedepetrol Карлоса Ортеги, профсоюз "счастлив, но не удовлетворен" соглашением и будет продолжать работу по улучшению уровня жизни рабочих.

Забастовка получила большую национальную и международную поддержку.

## ФИДЖИ: ОБЩЕНАЦИОНАЛЬНЫЙ ПРОТЕСТ

В октябре профсоюзами Фиджи была организована акция молчаливого протеста против военного "временного правительства", получившая название "Голубой День". Голубой - цвет флага Фиджи, именно он был объединяющей идеей широко развернувшейся демократической кампании. Люди по всей стране оделись в голубое. Раздавались голубые шапки и плакаты с требованиями демократии по Конституции Фиджи 1997 года.

Эту акцию поддержали СМИ, члены профсоюзов всей страны, включая занятых на общественных работах и государственных служащих, которым угрожали за эту поддержку. Конгресс Профсоюзов Фиджи намерен подать официальную жалобу из-за угроз в Международную Организацию Труда.

Кроме того, Конгресс сообщил о том, что молчаливый протест "Голубой День" - только начало. Акция будет продолжаться для быстрого возврата к демократии столько времени, сколько на это потребуется.

Кризис на Фиджи разразился в мае этого года, когда предприниматель Джордж Спейт и его соратники предприняли вооруженный переворот и захватили заложников в здании парламента. В конечном счете заложники были освобождены и заговорщики арестованы. Но вместо того, чтобы вернуть власть избранному страной правительству, военные ввели свое собственное "временное правительство". Многие граждане Фиджи называют это "переворотом в перевороте".

Демократическая кампания получила сильную поддержку ICEM, Международной Конфедерации Свободных Профсоюзов (ICFTU) и других международных организаций.

***(По материалам зарубежной печати).***

*Каментарыі*

# Расійскі фактар узмацняецца?

Замена сілавых міністраў на выхадцаў з Расіі стварае рэальную пагрозу страты суверэнітэту Беларусі, лічыць старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікалай Статкевіч.

На ягоную думку, узмацненне расійскага фактару сведчыць пра тое, што Лукашэнка знаходзіцца пад «прамым ціскам расійскага кіраўніцтва». «Калі раней ішла размова аб стварэнні нейкага саюза, то зараз можна гаварыць аб магчымасці рэальнай жорсткай інкарпарацыі Беларусі ў Расію», — сказаў Мікалай Статкевіч.

«Адзінае лагічнае тлумачэнне сённяшніх адставак — уцечка інфармацыі аб лёсе Дзмітрыя Завадскага», — заявіў у інтэрв'ю БелаПАН старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька. «Калі інфармацыя пра Завадскага пацвердзіцца, то Лукашэнка становіцца бесперспектыўнай фігурай на прэзідэнцкіх выбарах, выйграць якія ў яго і так практычна няма шанцаў», — сказаў старшыня АГП.

На думку лідэра БНФ «Адраджэньне» Вінцука Вячоркі, цяперашнія кадравыя перастаноўкі «азначаюць канец усёй канфігурацыі ўлады, створанай падчас праўлення Лукашэнкі». «Шэйман быў апошнім з небезвядомай «лёзненскай тройкі», ён з'яўляўся блізкім сябрам Лукашэнкі, і павінна было здарыцца штосьці экстраардынарнае, каб той пайшоў на падобныя перастаноўкі», — мяркуе Вячорка. Апрача таго, на думку лідэра БНФ, цяперашнія адстаўкі і прызначэнні сведчаць аб «ператварэнні Лукашэнкі з суб'екта ў аб'ект расійскай палітыкі, паколькі ключавыя пасады ўсё больш займаюць людзі, якія нарадзіліся ў Расіі».

Кіраўнік аддзела спецыяльных праектаў галоўнай рэдакцыі грамадска-палітычнага вяшчання ОРТ Павел Шарамет лічыць, што новыя кадравыя перастаноўкі ў Беларусі з'яўляюцца «чысткай кадраў» і накіраваны на ўзмацненне ўладнай «вертыкалі» Аляксандра Лукашэнкі.

«Хаця Латыпаў у параўнанні з Шэйманам — гэта апалагет лібералізму і дэмакратыі, чалавек, адэкватны і здаровы, цешыць сябе надзеяй не варта, таму што Латыпаў — выхадзец з КДБ і загартоўка афіцэра спецслужбаў у яго застаецца», — лічыць Павел Шарамет.

Што тычыцца Уладзіміра Мацкевіча, то ён, па словах Шарамета, не быў «чалавекам Лукашэнкі». Разам з тым Леаніда Ерына ён лічыць «чалавекам у вышэйшай ступені небяспечным, нягледзячы на тое, што пра яго гавораць, як аб інтэлігентным і спакойным».

Усе гэтыя адстаўкі, на думку Шарамета, ускосна звязаны са справай апаратара ОРТ Дзмітрыя Завадскага, які знік без вестак. Канфідэнцыяльная інфармацыя па гэтай справе, як выказаўся Павел Шарамет, «лезе з усіх дзірак», аднак патрабуе асцярожнасці і старэннай праверкі, паколькі «многае вельмі падобна на правакацыю». Бліжэйшым часам, паводле меркавання Шарамета, можна чакаць новых скандальных выкрыванняў, звязаных са справай Завадскага.

Павел Шарамет не звязвае кадравыя перастаноўкі ў Беларусі з ціскам з Масквы. На ягоную думку, яны не ўказваюць на тое, што на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах Крэмль зрабіў стаўку на Лукашэнку.

**Паводле БелаПАН.**

*Бывает же...*

## Невеста в фате и с... внуками

Совместное проживание до официальной регистрации отношений - "чтобы проверить силу чувств" - имеет множество сторонников. Однако не всем хватает терпения на столь длительный "проблемный брак", как у жителей маленького никарагуанского городка - Хосе Игнасио Эрнандеса и Анны Росы Сандино. Они изучали серьезность намерений друг друга... 75 лет. И лишь убедившись, что спутник жизни - "что надо", решились узаконить отношения. Бракосочетание после затянувшейся помолвки отличалось пышностью. 90-летняя невеста, как и положено, была в белом платье с вуалью, а жених, которому стукнуло 107 лет, - в строгом костюме. Поздравить молодых пришли 28 внуков и 30 правнуков.

## Вороватый кот

Черная кошка пробежала между двумя семьями-соседями, которые жили в монгольской столице лет десять душа в душу. Разлады пошли с того, что в одной из семей стало пропадать золото: кольца, цепочки, серьги. Однажды исчезла даже старинная позолоченная фигурка Будды. Полиция оказалась бессильной. Только когда одна из семей сменила квартиру, пропажи прекратились. Виновником этих безобразий был кот - любимец младшего сына соседки. Мальчик признался, что еще котенком научил животное таскать кольца и серьги у матери. Затем все вещи он возвращал. Когда домашние игры прекратились, кот стал воровать золотые украшения у соседей и приносить мальчику, а тот, боясь скандала, молчал. Потом уже, собрав все украшения, он отнес их в ломбард, чтобы получить деньги на карманные расходы. Здесь "преступную группу" и накрыли.

## Поздравляем!

**Михаилу Михайловичу ЛЕОНОВИЧУ,**
***работнику ЗАО "Калинка"***

**Уважаемый Михаил Михайлович!**
**Поздравляем Вас с днем рождения!**
И желаем каждый год
Быть моложе, здоровее,
Жить без горя и забот.
Счастья Вам, успехов в производственной деятельности!

**Исполнительное бюро Независимого профсоюза ЗАО "Калинка".**

**Федору Федоровичу АРТИМЕНЕ,**
***работнику 3-РУ ПО "Беларуськалий"***

**Уважаемый Федор Федорович!**
**Поздравляем Вас с 50-летием!**
И не надо Вам думать о возрасте,
Не настала такая пора.
Мы желаем здоровья и бодрости,
Счастья, мира, любви и добра!

**Исполнительное бюро Независимого профсоюза горняков 3-РУ и ПО "Беларуськалий".**

**Виктору Николаевичу ГРИНЮКУ,**
***работнику ОАО ЛМЗ "Универсал"***

**Уважаемый Виктор Николаевич!**
**Поздравляем Вас с днем рождения!**
Желаем, чтоб жизнь никогда не кончалась,
Беда и печаль на пути не встречались,
Огромного счастья и верных друзей,
Здоровья, успехов и солнечных дней.

**Исполнительное бюро Независимого профсоюза ОАО ЛМЗ "Универсал".**

**Николаю Ивановичу СТАТКЕВИЧУ,**
***работнику ЖДЦ ПО "Беларуськалий"***

**Уважаемый Николай Иванович!**
**Поздравляем Вас с 50-летним юбилеем!**
Желаем Вам не ведать бед,
Не знать ни горя, ни ненастья,
И чтоб хватило на сто лет
Здоровья, бодрости и счастья.
Успехов Вам в производственной деятельности!

**Исполнительные бюро Независимого профсоюза ЖДЦ и Независимого профсоюза горняков ПО "Беларуськалий".**



## Просто анекдот

*Разговаривают две дамы:*
*- Все мужики пьют!*
*- А мой гад еще и ест.*

☺ 😐 ☹

*Рэкетиры - нормальные пацаны. Они всегда придут на выручку.*
*Была бы выручка...*

☺ 😐 ☹

*Очередь у пивного ларька. Слышится возмущенный возглас:*
*- Почему не доливаете?*
*Продавщица высунулась из амбразуры и кричит, обращаясь к очереди:*
*- Слышите, мужики? Этот козел хочет, чтобы вам пива не хватило!*

☺ 😐 ☹

*Муж пишет жене с Гаваев:*
*- Отпуск провожу отлично. На баб даже не смотрю. Целыми днями учусь играть на гавайской гитаре...*
*Приехал он через пару недель и тянется поцеловать жену.*
*Она:*
*- Нет, нет. Сначала сыграй на гавайской гитаре!*

☺ 😐 ☹

*Мужик подходит к книжному киоску:*
*- У вас есть что-нибудь почитать этакое... Знаете, я люблю, чтобы не рассусоливали, чтобы все коротко и ясно, без всех этих заумных писательских выкрутасов. И чтобы чтение было не тупое, а полезное. В общем, чтобы без этой книги жизнь была просто немыслима!..*
*- О вам повезло! Как раз такой шедевр у меня есть! Для себя берег. Осталось одно расписание электричек...*

## Гурманам на заметку

### МОРКОВНО-ЧЕСНОЧНАЯ ПРИПРАВА

***Морковь - 0,5 кг, чеснок - 300 г, облепиховый сок - 200 г, сахар - 100 г, соль - 15 г, яблочный уксус - 50 г.***

Морковь нарезать крупными кусками, залить небольшим количеством воды, добавить сахар и варить до готовности; горячей протереть через сито, остудить и добавить пропущенный через мясорубку чеснок, облепиховый сок, соль, сахарный песок, уксус и тщательно перемешать. Разложить приправу в маленькие баночки. Хранить на холоде.

### ПРИПРАВА ИЗ ЛЕСНОЙ РЯБИНЫ

***Рябина лесная - 1 кг, перец сладкий болгарский - 200 г, сахарный песок - 300 г.***

Рябину промыть, бланшировать 1 минуту, затем пропустить через мясорубку вместе с болгарским перцем, добавить сахар. Довести массу до кипения, расфасовать в чистые стерилизованные банки, закатать. Такую приправу рекомендуется подавать к мясу и птице.







*Проблемы*

## Ежегодные потери

5,5 миллионов лари (около 3 млн. долл.) ежегодно теряет бюджет Грузии в результате самиздата школьных учебников. Об этом агентству «Аргументы и факты-Новости» сообщили в министерстве образования республики. Всего в преддверии каждого нового учебного года реализуется до 6 млн. учебных пособий. Из них 5 млн. - приходится на сделанные подпольно на плохой бумаге и в черно-белом исполнении. Однако данные издания существенно дешевле официально напечатанных, поэтому и пользуются у жителей республики устойчивым спросом.

**Салідарнасць**
Рэгістрацыйны №687
Газета заснавана ў 1991г. **Іванам Юргевічам**

**Заснавальнік** — Беларускі Незалежны прафсаюз гарнякоў, хімікаў, нафтаперапрацоўшчыкаў, энергетыкаў, транспартнікаў, будаўнікоў і іншых работнікаў

**Рэдакцыйная калегія:**
Бабаед В.С., Юргевіч І.В., Галубіна Н.Я., Новік С.М., Мікалайчанка А.С., Абрамычаў Д.Я.

**Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць прыводзімых фактаў, цытат і іншай інфармацыі. Рэдкалегія можа друкаваць матэрыялы, не абавязкова падзяляючы пункт гледжання аўтара.**

Рэдактар **Віталь Мурылёў**
**Адрас рэдакцыі:** 223710,г.Салігорск,вул.Леніна, 42, БНП. Тэл.: (01710) 2-06-22, тэл./факс: (01710) 2-00-59
E-mail: sol_sn@inbox.ru
Падпісана ў друк 30.11.2000 года ў 8.00
Газета аддрукавана ў друкарні г.Слуцка,
223610 г.Слуцк, вул. Багдановіча, 7 Заказ 4646
Тыраж **6.000**